Opłate pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. аг 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 21 — Вільня, Пятніца, 24-га верасьня 1926 г. — Год I.

## Тварам проці твару.

Паводле апавяданьняў нашых паслоў, якія былі на першых паседжаньнях толькі-што распачатае сэсіі Сойму,—польскі парлямэнт робіць ураженьне нечага *мёртвага, бяздушнага, лішняга...*

Перавысіў урад п. п. Бартля-Пілсудскага дзяржаўныя выдаткі ў трэцім квартале нешта на 16 з лішкам міліёнаў злотых проці таго, на што меў права,—вось і склікаў паноў паслоў, каб „заднім чыслом“ асыгнавалі разыйшоўшыяся ўжо грошы. І ўсе ведаюць, што Сойм зацьвердзіць выдаткі за трэці квартал, выасыгнуе, што трэбуюць у яго, на чацьверты, ды зноў „засьне“...

У сувязі з утратай Соймам усялякае павагі і значэньня можна заўважыць цікаўную зьмену ў тэй сацыяльнай і нацыянальнай барацьбе, якая гэтак энэргічна вялася палітычным прадстаўніцтвам розных сацыяльных кляcаў і нацыянальных груп на соймавым груньце. Там—ў Сойме — вясьці гэтую барацьбу няма *ніякага сэнсу*: ўсё роўна, у сваей сацыяльнай і нацыянальнай палітыцы Сойм пойдзе тым шляхам, які вызначыць яму „лібэральная“ польская буржуазія, інтарэсы каторай перадусім бароне „маёвы“ ўрад.

Дагэтуль працоўныя масы Заходняе Беларусі праз сваіх паслоў у Сойме *трэбавалі здаваленьня Польскай дзяржавай* культурна-нацыянальных і эканамічных патрэб беларускіх сялян і работнікаў, слушна лічучы, што гэта—абавязак дзяржавы. Цяпер, калі Сойм прадстаўляе як-быццам гальванізованага трупа, калі пануючая буржуазія з сваім кляcавым урадам навет і ня думае паважна падыйсьці да разгляду нашых слушных дамаганьняў (—прыпомнім прыём беларускіх і іншых дэлегатаў п. п. Бартлем і Суйковскім!),—цяпер больш, чым калі, робіцца ясна, што, вядучы барацьбу за ўладу для сялян і работнікаў *назаўтра*, мы павінны толькі на свае ўласныя сілы разьлічаць і спадзявацца, паскольку хочам ужо *сягоньня* ці то мець родную школу, ці дабіцца тых або іншых эканамічных заваяваньняў. — Дык ясна, што і нашае змаганьне за лепшы быт, за нацыянальную волю і культуру мусіць вясьціся на нашай роднай зямлі, у штодзенным жыцьці, мусіць быць перадусім *творчым*: чаго не спадзяемся, што нам дадуць (хоць і слушна нам гэта належыцца!), тое мусім *самі стварыць ці здабыць*.

Арганізацыя нашых сялян і работнікаў расьце з кожным днём. Гусьцеюць рады актыўных барацьбітаў за нашу справу. І вось іх энэргія мусіць быць выкарыстана іменна ў тым кірунку, каб мы *свае патрэбы маглі здаволіваць самі*.

А іменна: самі мусім тварыць свае школы ў роднай мове—для дзяцей; самі мусім распачаць працу над пазашкольнай асьветай—для дарослых, ладзючы ўсялякія курсы, бібліатэкі-чытальні, гурткі самаразьвіцьця. Мусім шырыць сваю кніжку й газэту. Мусім арганізована бараніцца ад вызыску нас абшарнікамі і фабрыкантамі. Мусім распачаць працу ў кірунку адваяваньня сабе належнага месца ў самаўрадах—гмінных і павятовых. Мусім здабываць для сябе ўплывы ў грамадзкіх установах па мястох. Мусім у-ва ўсіх галінах грамадзкае самадзейнасьці прымаць чыннае ўчасьце,—ведама, ні на мамэнт не забываючыся пры гэтым аб сваіх галоўных нацыянальна-палітычных і сацыяльных мэтах.

Коратка кажучы: мусім *стануць тварам проці твару супраць добра з'арганізаванае буржуазіі*, займаючае ў дзяржаве пануючае палажэньне,—стануць, як таксама *з'арганізаваная сіла*, дужая і сваей сьвядомасьцяй, і культурнасьцяй, і арганізацыйнай спайкай і дысцыплінай. Бо змаганьне з парляманцкага грунту ўсё больш пераходзе на грунт штодзеннага жыцьця, дзе *актыўнымі мусяць быць* ня толькі павадыры народу, але і *ўсе грамадзяне, усе радавыя байцы, усе паасобныя сяляне й работнікі*.

Гэты способ барацьбы цяжэйшы. Але само жыцьцё вымагае яго. І мы мусім вытварыць у нашых масах поўную сьвядомасьць гэтага.

## У Польшчы.

### Недаверые правіцы міністру асьветы і ўнутраных спраў.

Газэты пішуць, што прамова міністра ня выклікала ніякага зацікаўленьня ў Сойме. За тое сэнсацыю выклікалі інтэрпэляцыі і прапазіцыя польскай эндэцыі і польскай хадэцыі—аб недаверыі міністрам Млодзяновскаму і Суйковскаму. У чацьвер гэтыя прапазіцыі, у зьвязку з адпаведнымі інтэрпэляцыямі, будуць разглядацца Соймам.

### Рэзалюцыя Галоўнай Рады хадэкаў.

Галоўная Рада хрысьціянскіх дэмакратаў прыняла вельмі рэзкую рэзалюцыю проці ўраду Бартля. Рэзалюцыя закідае ўраду несправядлівыя й няроўныя адносіны розных групаў дзяржаўных урадоўцаў, няўменьне справіцца з узростам дарагоўлі, увядзеньне палітыкі і маральнага раскладу ў армію, дэзарганізацыю дзяржаўнай адміністрацыі, беспадстаўнае выганяньне са службы „заслужаных“ генаралаў, ваяводаў, куратараў і іншых урадоўцаў. Далей рэзалюцыя кляйміць урад за тое, што „ўзгадаваньне моладзі даручаецца людзям, слаўным сваей барацьбой з рэлігіяй“ (чытай: міністар Суйковскі, ведамы „масон“ і „вольны мысьліцель“!),—за тое, што ўрад дапускае ператварэньне ў „партыйныя баёўкі розных ваенных арганізацыяў“, стральцоў і т. п., якім даецца ўрадавая дапамога,—і г. д.

У канцы, у выніку ўсяго гэтага, Рада заклікае клюб хадэкаў да рашучай апазіцыі адносна да ўраду.

### Дзе ўрад будзе шукаць новых падатнікаў?

Міністар Клярнэр не сказаў, дзе ўрад будзе шукаць новых падатнікаў дзеля павялічэньня даходаў скарбу: ці сярод багатых, ці сярод небагатых? Але газэты ўжо падалі вестку аб тым, што канцэляры міністра ўжо апрацавалі праект — „зьмяншэньня лічбы дзесяцін, звальняючых хлебароба-падатніка ад платы падаходнага падатку“. Дагэтуль быў звольнены ад гэтага падатку той, хто меў да 30 гэктараў зямлі; цяпер будуць плаціць усе, хто мае больш за 15. А вось, аб пагрозах прэм. Бартля — націснуць на абшарнікаў, каб у іх у кішанёх, напханых далярамі з рабунковага вывазу збожжа з краю, нашукаць грошаў на патрэбу скарбу, у экспозэ міністра фінансаў няма ніводнага слова.

### Нарада ў справе школьніцтва нацыянальных меншасьцяў.

Прэм'ер Бартэль меў нараду з міністрам асьветы Суйковскім у справе школьніцтва нацыянальных меншасьцяў у Польшчы.

### Зьдзекі над дзеяльнасьцяй міжпартыйнага сэкрэтарыяту дзеля барацьбы за амністыю.

Як апавяшчае Цэнтральны Міжпартыйны Сэкрэтарыят дзеля барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў, у Львове 7-га верасьня паліцыя зрабіла налёт на кватэру прадстаўніка партыі „Воля Народу“ ў сэкрэтарыяце, Вальніцкага, і забрала 3½ тысячы подпісаў за амністыю. Камісар паліцыі пры гэтым заявіў, што ўлада глядзіць на ўсю акцыю на карысьць амністыі, як на нелегальную (!).

У Сасноўцу было склікана веча ў справе амністыі, на якое прыехаў старшыня Цэнтр. Сэкрэтарыяту пасол Балін. З прычыны таго, што саля, у якой мела адбыцца веча, аказалася зачыненай, сход перайшоў у салі народнае школы. Паліцыя, якая загадзя акружыла школу, зрабіла атаку на сабраўшуюся навакол школы 2 тысячную таўпу і разагнала яе, рубаючы шаблямі. Паслу Баліну паліцыя заявіла, што ён можа рабіць справаздаўчыя мітынгі, але кожын сход у справе амністыі староства загадала разганяць.

### Водгукі міжнародавага дня моладзі.

5 га верасьня ў Варшаве работніцкая моладзь уладзіла паход з чырвонымі сьцягамі і транспарантамі. На паход накінулася паліцыя з шаблямі і пэпэсаўская „баёўка“ з дубінамі, б'ючы і калечучы дэманстрантаў. Асабліва адзначаліся пэпэсаўскія „баёўцы“, якія нападалі на дзяўчат, валілі на зямлю і білі нагамі. Пабітых каля 60 асоб забралі ў паліцыю, дзе адзін — Грымбаўм—ад ран і ўтраты крыві памёр. Доктар зьявіўся да яго толькі цераз некалькі гадзін, калі ён ужо сканаў. У 10 гадз. увечары ўсіх арыштаваных звольнілі.

### Новы наваградзкі ваявода.

На становішча наваградзкага ваяводы назначаны нейкі п. Бэчковіч, былы заступнік урадавага камісара м. Варшавы. Надовячы ён выехаў на месца службы — у Наваградак.

## З Сойму.

### Надзвычайная сэсія.

20 верасьня пачалася надзвычайная сэсія Сойму. Сойм мае на гэтай сэсіі працаваць кароткі час—здаецца, да канца гэтага тыдня. На павестцы дня працы Сойму стаяць: справа бюджэту на 3 чверць гэтага году (дадатковага) і на 4 чверць; справа рэвэляцыйнага пісьма б. прэм. Грабскага да марш. Ратая і справа зацьверджаньня Соймам польска-румынскага трактату. Пасьля гэтага Сойм мае быць распушчаны ізноў, каб сабрацца на звычайную сэсію 30 лістапада — дзеля разгляду бюджэту на 1927 г.

### Экспозэ міністра фінансаў.

Бароннячы прадстаўленыя бюджэты—на 3 і 4 кварталы с. г., міністар фінансаў зрабіў экспозэ—аб агульным стане фінансавай гаспадаркі Польшчы. Міністар сцьвярдзіў значнае паляпшэньне агульнага стану, даводзячы, што прычына гэтага паляпшэньня — узмацненьне даверыя да новага польскага ўраду, як у краі, так і заграніцай. А да гэтага шмат прычынілася зьмена Канстытуцыі ў напрамку павялічэньня ўлады прэзыдэнта Рэспублікі. З паданых лічбаў выдаткаў і даходаў міністар аблічыў, што за ўвесь 1926 год будзе толькі 44 мільёны недахвату; але і гэты недахват міністар мае надзею пакрыць, не дамагаючыся ад парляманту падвышкі падаткаў... Міністар абяцуе шырокія асыгнаваньні з дзяржаўнага скарбу на публічныя работы, якія, апрача карысьці для краю, дадуць працу для часткі безработных, якіх у Польшчы каля паўтраці сотні тысяч. Першым чынам міністэрства зямельных рэформ мае ажыцьцёвіць вялізарны праект мэліарацыі (паляпшэньня грунтаў, асушкі балотаў, рэгуляцыі водных шляхоў і т. п.)... у ваколіцы Варшавы! Кошты гэтых работ дасягнуць сумы... 15 мільён. злотых! Ваеннае міністэрства атрымала ўжо грошы на далейшую разбудову ваеннай прамысловасьці. Будаўляны рух будзе таксама падтрымлівацца ўрадам, як і прыватная прамысловасьць наагул, бо сучасны мамэнт памысны для Польскай прамысловасьці, а яе разбудова будзе адначасна зьмяншаць і безрабоцьце. Яшчэ больш шырокае падтрыманьне міністар абяцуе польскім прамыслоўцам у бюджэтах на 1927 і 1928 г. г. Міністар сцьвярджае, што ўрад вельмі клапоціцца і аб паляпшэньні быту дзяржаўных працаўнікоў (?!) Але паправа тут можа ісьці толькі паволі — наколькі дазваляе бюджэт... Далей міністар кажа вельмі глуха аб праекце ўраду зьмяніць дрэнную падаткавую сыстэму ў Польшчы, каб прыцягнуць да ахвяр на карысьць скарбу вялікія лічбы грамадзян, якія цяпер амаль-што зусім ня плоцяць падаткаў. Каго мае на мысьлі міністар: уласьнікаў, ці працоўных?,—ён тут ня кажа... Міністар сцьвярджае, што з дзьвюх бед польскага бюджэту: нясталасьці польскай валюты і нясталасьці цэнаў на тавары ў краі — урад ужо перамог першую. Валюта ўжо стаіць моцна. Асталося цяпер устабілізаваць цэны ў краі, якія ўсьцяж растуць, пагражаючы раўнавазе бюджэту. Наагул, міністар сцьвярджае, што ўсё ў Польшчы йдзе добра, памысна... Капіталы з-заграніцы плывуць у Польшчу; свае капіталы таксама растуць у краі. Дык ураду трэба вельмі асьцярожна ўмешывацца ў памыснае разьвіцьцё капіталістычнай гаспадаркі ў Польшчы.. Абы толькі—„спакой і ўнутраная раўнавага ў краі дазволілі ўтрымаць і выкарыстаць гэтыя ўжо дасягнутыя рэзультаты“...

Дай-жа-ж Божа!—Мастак гэты міністар Клярнэр—маляваць пекныя абразы „польскай прыроды“.

### Звальненьне з вастрогу ген. Мальчэвскага.

Па загаду марш. Пілсудскага звольнены з Антакольскага ваеннага вастрогу ў Вільні б. ваенны міністар ураду Вітаса ген. Мальчэўскі.

### Ізноў скатавалі афіцэра!

Газэта „Głos Prawdy“ друкуе пісьмо раднага места Варшавы дэ-Россэта, у якім апісываецца, што ў сувязі з сустрэчай між нейкім шофэрам і паручыкам дэ-Россэтам, сынам раднага, калі абодва спорщчыкі апынуліся ў паліцэйскім камісарыяце, паручыка ўпхнулі ў асобны пакой, ды тут пяцера паліцыянтаў з пшодоўнікам № 122 зьбілі дэ-Россэта да бяспрытомнасьці.

## Заграніцай.

### Ваяўнічая заява літоўскага міністра.

Польскім газэтам наказуюць з Коўны:

Ваенны міністар Літвы ў гутарцы з прадстаўнікамі ўрадавага агенцтва заявіў, што ўсе чуткі аб быццам-то зьмяншэньні лічэбнасьці літоўскае арміі — нязгодны з праўдай. Наадварот: паадзінокія баявыя адзінкі будуць лічбова павялічаны. Адначасна, у сувязі з весткамі аб захватных плянах Польшчы, адбыліся перамены ў разьмяшчэньні літоўскіх войск уздоўж польскай граніцы, ды зроблена падрыхтоўка на выпадак абвяшчэньня мабілізацыі. Ахова пагранічча будзе зрэарганізавана і аддадзена пад загад ваеннага міністэрства.

### На шляху да француска-нямецкага саюзу.

З Жэневы, дзе Брыян і Штрэзэман задэманстравалі перадусім сьветам новую эру прыязьні між Францыяй і Нямеччынай, абодва міністры паехалі на аўтамабілі ў нейкае мястэчка Туарі, дзе гутарылі між сабой аж 5 гадзін. Тут яны, укрыўшыся ад усіх, як кахаючаяся пара, абгаварылі ўсе цікавячыя іх справы і дайшлі да поўнага паразуменьня. Справа ачышчэньня нямецкай зямлі ад акупацыі, справа ваеннага кантролю над Нямеччынай, „шлюб нямецкага вугальля з францускай жалезнай рудой“, справа аддачы Нямеччыне яе калёніі, а можа і яшчэ якіх яе зямель у Эўропе, — усё было абгаворана і вырашана так, што—„абодва міністры асталіся вельмі здаволены адзін адным“...

Калі нямецкі міністар здаволены, дык ясна, што францускі згадзіўся зрабіць так, як дамагаўся Штрэзэман, каб толькі „загарантаваць мір і бясьпечнасьць“ Францыі.

Цяпер, як паўафіцыяльна паведамляюць газэты, справа толькі за тым, каб урады і парляманты адобрылі паразуменьне дыпляматаў. І—саюз Францыі з Нямеччынай станецца ўжо фактам, як стаўся фактам рашучы паварот у палітыцы дзьвюх наймагутнейшых дзяржаваў эўрапэйскага кантынэнту, якія толькі-што былі сьмяротнымі ворагамі адна аднэй...

### Што каштавала Англіі забастоўка вуглякопаў.

Паводле апошніх падлічэньняў, забастоўка вуглякопаў ужо каштуе Англіі 350 мільёнаў фунтаў (фунт—каля 5 даляраў). Вось як дорага каштуе краю агіднае ўпорства вугальных прамыслоўцаў і „карэктнасьць“ адносна да іх рэакцыйнага ўраду! Лепш пераплаціць дзесяць разоў заграніцу, але—каб толькі ня даць лішняга гроша свайму работніку-вуглякопу!...

### Канфлікт між Італіяй і Францыяй.

У сувязі з апошнім замахам на Мусоліні, італьянскі ўрад патрэбаваў высяленьня з Францыі ўсіх італьянскіх эмігрантаў, а прынамся выдачы італьянскаму ўраду ворагаў фашызму, на каго ён пакажа, як звычайных уголоўных праступнікаў. Брыян адмовіўся споўніць гэтае дзікае дамаганьне. Тады фашысты пачалі прост пагражаць Францыі аружжам, і ў адказ на гэта, як паведаміла адна з венскіх газэт, пачалася пасьпешная канцэнтрацыя францускіх войск на француска-італьянскай граніцы... Пасьля гэтага „гарачка“ ў Мусоліні раптам пачала спадаць... Пачаліся больш мірныя размовы між пасламі і ўрадамі суседніх дзяржаў, і ўрэшце Пуанкарэ заявіў, што весткі аб мабілізацыі „пазбаўлены ўсялякіх падставаў“... Але фашыстаўская Італія, якая рвецца да вайны, толькі разварушылася гэтым выпадкам. Прэса ня можа супакоіцца, пагрозы ворагам фашызму сыплюцца далей, ды ўсе скіраваныя проці Францыі, з якой вайну—аб перадзел афрыканскіх калёніяў! —даўно ўжо рыхтуе Мусоліні.

### Узнаўленьне вайны ў гішпанскім Марокко.

У Гішпаніі страшэнную трывогу выклікала вестка аб узнаўленьні паўстаньня ў Марокко. Быццам ізноў пачалася там вайна, у якой (— ну вадама-ж!) гішпанцаў б'юць рыфэны ды гоняць, як баранаў, перад сабой...

Ці не зрабілі гэтага французы, каб пастрашыць Гішпанію—за здраду Францыі на карысьць Італіі?!

### „Хатняя вайна“ ў Кітаі.

„Хатняя вайна“, ці лепш: „скрытая інтэрвэнцыя“ замежных дзяржаваў у Кітаі — ўсё пашыраецца. Народная арміі кантонскага ўраду, пасьля перамогі над войскам англійскіх наймітаў, прагналі і англійскую эскадру з сваіх унутраных водаў. Пасьля гэтага кантонскія арміі маюць ачысьціць ад англійцаў Шанхай.

У тылу недабіткаў арміі Ву-Пэй-Фу шырыцца шпарка народна-рэвалюцыйны рух. Ідзе пагалоўнае азбраеньне насяленьня. Паражэньне англійцаў выклікала вялізарны ўздым у краі. Павага „неперможных англікаў“ зусім пала ў Кітаі. Байкот англійскіх тавараў шырыцца. Спроба аружнай барацьбы проці байкоту з боку англійцаў толькі аканчальна скампрамітуе іх на ўсім Далёкім Усходзе...

### Маральнае банкруцтва Лігі.

Як ведама, Кітай выбраны сябрам у Раду Лігі Народаў. У той самы час два сябры Лігі і яе Рады падрыхтоўваюць ваеннае выступленьне проці гэтага свайго калегі: Англія і Японія. І ў Радзе Лігі аб гэтым—маўчаць!... Дык ясна, чаго варта ўся гэтая Ліга...

Цікаўна і тое, хто з валадароў розных часьцін Кітаю будзе прызнаны законным прадстаўніком усяго Кітаю: ці японскі найміт Чанг-Тсо-Лін, ці галава Кантонскага ўраду?... Між імі йдзе сьмяротная барацьба.

Тымчасам Англія выслала ў кітайскія воды яшчэ 2 лёгкія крэйсэры...

## З жыцьця „Грамады“.

### НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

331. 19./VIII. у м-ку **Язьне**, Дзісьненскага пав.
332. 19./VIII. у в. **Татары**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
333. 19./VIII. у в. **Глядовічы**, Лунненскае гм., Горадзенскага пав.
334. 15./VIII. у в. **Стрэльчыкі**, Новадворскае гм., Сакольскага пав.
335. 22./VIII. у в. **Клетнае**, Сухапольскае гм., Пружанскага пав.
336. 21./VIII. у в. **Рэпішча**, Ёдскае гм., Браслаўскага павету.
337. 20./VIII. у в. **Равіна**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав.
338. 22./VIII. у в. **Цецяроўка**, Вяліка-Берастaвіцкае гм., Горадзенскага пав.
339. 24./VIII. у в. **Заельнікі**, Хаценчыцкае гм., Вялейскага пав.
340. 22./VIII. у в. **Выверы**, Маладэчанскае гм., Маладэчанскага пав.
341. 19./VIII. у в. **Боўцічы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.
342. 22./VIII. у в. **Шалыгі**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
343. 15./VIII. у в. **Канюхі**, Азёрскае гм., Горадзенскага пав.
344. 22./VIII. у в. **Лятнікі**, Гудзевіцкай гм., Горадзенскага пав.
345. 22./VIII. у в. **Усьцьце**, Стефанпольскае гм., Дзісьненскага пав.
346. 15./VIII. у в. **Зблянны**, Беліцкае гм., Лідзкага павету.
347. 28./VII. у в. **Рахавічы**, Жыровіцкае гм., Слонімскага пав.
348. 22./VIII. у в. **Асташыне**, Цырынскае гм., Наваградзкага пав.
349. 25./VIII. у в. **Валошына**, В.-Эйсмонтаўскае гм., Горадзенскага пав.
350. 19./VIII. у м-ку **Галынка**, Старавескае гм., Слонімскага пав.
351. 25./VIII. у в. **Такарышкі**, Юрацішскае гм., Валожынскага пав.
352. 22./VIII. у в. Акунінаве, Дзевяткаўскае гм., Слонімскага пав.
353. 25./VIII. у в. **Валотыны**, В.-Эйсмонтаўскае гм., Горадзенскага пав.
354. 19./VIII. у м-ку **Скідэль**, Горадзенскага павету, Гмінны гурток.
355. 21./VIII. у м-ку **Скідэль**, Горадзенскага павету.
356. 20./VIII. у в. **Бубны**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.
357. 23./VIII. у в. **Зубкі**, Галынскае гм., Горадзенскага пав.
358. 22./VIII. у засьценку **Забалоцьце**, Лебядзеўскае гм., Маладэчанскага пав.
359. 22./VIII. у в. **Нелюбы**, Першайскае гм., Валожынскага пав.
360. 22./VIII. у в. **Агароднікі**, Ганчарскае гм., Лідзкага пав.
361. 23./VIII. у м-ку **Парэчча**, Парэцкае гм., Горадзенскага пав.
362. 22./VIII. у в. **Алёхнавічы**, Малецкае гм., Пружанскага пав.
363. 19./VIII. у в. **Галімцы**, Івянецкае гм., Валожынскага пав.
364. 22./VIII. у в. **Чарнеўшчына**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
365. 19./VIII. у в. **Сьнегі**, Ёдзкае гм., Браслаўскага павету.
366. 22./VIII. у в. **Краскі**, Падароскае гм., Ваўкавыскага пав.
367. 22./VIII. у в. **Амшара**, Падароскае гм., Ваўкавыскага пав.
368. 23./VIII. у в. **Талькаўшчына**, Дзеравенскае гм., Слонімскага пав.
369. 25./VIII. у в. **Струга**, Гудзевіцкае гм., Горадзенскага пав.
370. 21./VIII. у в. **Лязьневічы**, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага пав.

## Новыя парадкі у новым павеце.

28 жніўня с. г. дастаў я ліст ад жыхароў вёсак Пажарышча, Пятроўшчына і засьц. Вілуцэвічы Гарадоцкай воласьці, Маладэчанскага павету аб тым, якім парадкам змушаюць іх да выкананьня натуральнай дарожнай павіннасьці. Закранутае ў гэтым лісьце пытаньне ёсьць агульным—на нашу нядолю—зьявішчам і паказывае тую самаволю і непашанаваньне ўладамі на мейсцы істнуючых законаў, інакш дае малюнак ня права, а бяспраўя і нашай урадовай засадай („że tak chce moja noga, a prawo — to ja!“), што так хоча мая нага, а закон гэта я. Каб мець магчымасьць часамі налажыць на гэтую капрызную адміністрацыйную нагу ворчык, прыводжу ў скарочаньні зьмест ліста жыхароў вышэй паданых вёсак і вывад беззаконьня, як гміны так і старостваа на падставе абсьледаваньня гэтае справы ў канцэлярыі Маладэчанскага староства.

Сяляне памяненых вёсак між іншым пішуць: „24 жніўня ўначы і 25.VIII раніцай атрымалі загад ад солтыса, каб 25-га раніцай вышлі на работу на папраўку дарогі Гарадок—Ракаў. Загад быў выкананы, але ў часе работы выявілася, што двары або зусім ня выконваюць гэтае працы, або праца ім вызначана меншая ў стасунку да іхнага маёнтку. Паны—радныя гміны зусім не зьявіліся на работу. Сяляне пачалі трэбаваць ад уладаў прысутных пры працы выясьненьня гэтага, але зьявіўся войт гміны Корсак і выясьніў, што, калі яны ня выпаўняць да канца ягонага загаду, пераданага праз солтыса, дык ён паедзе ў Гарадок і прывязець паліцыянтаў для прыгону, а „непаслушных“ перапісаў. У канцы рабочага дня тэхнік прыймаў работу і пазапісаваў ня цэлы дзень работы, а толькі часткі, дзеля таго, каб нас узноў цягнуць на работу, як-бы ня выкананую. На запытаньне наша—якая кэтэгорыя гэтае дарогі і ці работы на ёй платныя ці бясплатныя, — ніхто адказу ня даў“.

Гэтае вольнадумства не абыйшлося сьмелым сялянам бяз кары. Вось як пішуць яны ў сваім да нас другім пісьме і тэлеграме. 7 верасьня паліцыя забрала трох грамадзян: Ігнатовіча Барыса, Будрыкаў Кастуся і Базыля, пагнала іх этапам за 20 вёрст у Маладэчына, а ў вёсках гмінная адміністрацыя і паліцыя прымусам зганяе людзей на работы.

Лічучы, што творыцца надужыцьце з боку ўлады адносна сялян, выехаў я 10.VIII да Маладэчанскага староства ў мэтах выясьненьня прычын умяшацельства паліцыі ў справу дарожнае павіннасьці.

Але ў старостве даведаўся я, што ўспомненыя тры асобы сядзяць у арэшце за невыкананьне загаду солтыса аб прымусовай рабоце на павятовай дарозе.

Вась-жа паглядзім, якія адносіны на падставе закону павінны былі мець мейсца ў гэтай справе. §§ 30 і 31 Закону аб дарогах (Ustawa drogowa, ogłoszona w Dzien. Ust. № 6, poz. 32) гаворыць, што лічба дзён працы як з канём так і пеша залежыць ад лічбы агульных падаткаў. Гэта значыць, хто і ў сколькі раз больш плаціць ад свайго маёнтку падаткаў, той у гэтулькі разоў больш павінен выконваць работы на дарозе. § 36 успомненага закону гаворыць, што загад аб папраўцы дарогі павінен быць прыняты павятовым соймікам і пастанова гэтая павінна быць вывешана ў гміне. § 8 успомненага закону дазваляе падлягаючаму дарожнай павіннасьці гаспадару злажыць скаргу да староства на няправільны расклад працы. § 31 прадбачыць, што калі хто не згаджаецца выйсьці на работу на сойміковай дарозе, дык мае права аплаціць сваю павіннасьць грашмі. Для гэтага законам даецца 14-днёвы тэрмін кожнаму—прыняць тое або другое. § 10 кажа, што калі гаспадар адмовіўся ад аднаго і другога, дык можа быць застасаваны да яго прымус.

Вось-жа ў выпадку направы дарогі Гарадок-Ракаў аніводзін з гэтых параграфаў успомненага закону ня быў выкананы, а зроблена ўсё было прыватна на асабісты загад войта Корсака („spędzić chłopów na roboty“). Як высьвятлілася, жаднае ня было прычыны сьцягаваць паліцыю на мейсца работы. Старастаўскія ўрадоўцы не маглі вытлумачыць адміністрацыйных загадаў пана-войта і дакляравалі зрабіць выясьненьне. Але думаецца, што пан войт, які дапусьціўся надужыцьця сваей улады, ня будзе пасаджаны туды, дзе сядзяць справядлівыя пратэстанты проці яго самаволі. Хоць, праўда, мяне запэўнілі, што будзе зроблена адпаведнае рассьледаваньне і вінаватыя ў несправядлівых распараджэньнях панясуць належную кару.

Выясьненьне староства ў гэтай справе, аб высылцы якога мне было дакляравана, зьмяшчу ў газэце па атрыманьні яго. На ўсякі выпадак даў я сяньня тэлеграму заарыштаванаму Ігнатовічу Барысу, каб ён дастаў зараз-жа копію пратаколу, на падставе якога ён пакараны.

Пасол Сойму **Юры Сабалеўскі**.

10. IX. 1926 г.

даваць, дык войт крычыць: „Бандыты, бальшавікі, —вы з раніцы да вечара глядзіце на Усход, ды чакаеце стуль выбавіцеляў“!

На заўтра цялушкі і жарабяты войт прадаваў на торзе. Сяляне панясьлі грошы, каб аддаў жывіну, але войт—дзе там: і гаварыць ня хоча.— Ведама, больш возьме за жывіну, чым трэба плаціць за страхоўку—ня раз уп‘ецца!

**Сябра.**

## Спагон штрафаў у вёсцы.

(В. Ваўковічы, Горадзечан. гм. Наваградз. пав.).

Каня селянін вядзе не закелзанага,—хоць-бы паіць,—ня-то што едзе ў Наваградак, — паліцыя так і сачыць,—адразу пратакол.—Баба есьці зварыць ранкам, дык мужык ужо стаіць з памялом, каб працерці комін, бо не працёр, — пратакол ды штраф! З вартаю—гэтак сама.

А як спаганяюць гэтыя штрафы!

У Васіля Казака за вартоўскі штраф (5 зл.) забралі 2-е чужых парток, бо ён мае толькі паўдзесяціны зямлі, дык на кавалак хлеба зарабляе краўцоўствам.

Гарадзечанскі войт Карповіч з паліцыянтам за падаткі пазабіраў апошнія пудзікі пшаніцы, жыта і навет куры.

Ды ці ўсё магчыма апісаць! **Прысутны.**

## Таўстаскурны.

(В. Шэні, Пружанскага пав.).

У „Народнай Справе“ была надрукавана карэспандэнцыя: „Заплаціў“, дзе пісалася, як наш камэндант ня плаціць належных грошай сялянам. Вельмі не спадабалася яна гэтаму камэнданту і напісаў ён пратакол на К. Шышко за тое, што, быццам, ён падаў факты аб камэнданьце. Ды мала таго,—гэтае таўстаскурнае тварэньне ня толькі не паправілася, а яшчэ горш разыйшлося. Цяпер нікому ён не аддае зробленых грошай. Так, не заплаціў Піліпу Засіму 1 зл.; Міх. Сахарку—1 зл.; Язэпу Воласу каля 5 зл.; Антону Шышко каля 8 зл.

А пойдзе хто дапамінацца, дык „каля першага аддам!“ — кажа. А скажа селянін, што ня першы раз ужо ён абяцуе, дык лобам дзьверы адчыніць.

І жыві—не гаруй, селянін! **Чайка.**

## Хацеў, каб Богу і Мамонне служыў.

(м-ка Трабы, Валожанскага пав.).

Розныя ў нас былі ксяндзы, — ніхто з іх не адзначаўся дабрадзейнасьцяй для сялян, але — вось—цяперашні ксёндз Блажэвіч дык у параўнаньні з папярэднімі — „усім ксяндзом ксёндз“. Каб апісаць, як ён скубе і смокча селяніна,—трэба было-б змарнаваць многа паперы;—ды шкада яе. Таму-та абмяжуюся адным прыкладам, з якога можна будзе судзіць, што за чалавек гэты ксёндз.

Калістрат — чалавек пакрыўджаны лёсам, бяз прытулку і на абое вочы сьляпы,—быў сторажам пры касьцелі. Дык цяпер гэты кс. Блажэвіч прагнаў яго! А за што? За тое, што сьляпы ня мог служыць Богу і Мамонне—быць сторажам пры касьцелі і парабкам у ксяндза!

Бачыце, людцы, нас пеклам страшаць, а самы, што выробляюць! **Зьдзіўлены.**

## Цікавае здарэньне.

(Двор Налескі, Маўчадзкай гм., Баранавіцкага п.).

28 жніўня г. г. бедны селянін Якуб Азарка з сваім 12-летнім сынам Янкай пасьвілі каля дворскага лесу каровы абшарніка Сандзілоўскага. Неспадзявана выскачыла з кустоў вялізная ваўчыца і, не зварачаючы ніякае ўвагі на сядзеўшых тут-жа пастухоў, накінулася на карову. Аднак, спачатку Азарку ўдалося адагнаць яе. Ваўчыцца адбеглася на некалькі крокаў у бок і паўтарыла напад на другую карову, але пастух, падыйшоўшы да яе зусім блізка, ізноў перашкодзіў. Тады галодная ваўчыца раптам кінула карову і скочыла на грудзі Азарку, паваліла яго на зямлю і пачала кусаць за твар і за рукі; але нядоўга кусала, бо інстынктыўна баронячыся, Азарка схапіў ваўчыцу абедзьвюма рукамі за шыю так моцна, што грызьці больш яна ўжо не магла. Гэты мамэнт выкарыстаў малалетні Янка: у працягу некалькіх сэкундаў ён зьвязаў заднія і пярэднія ногі ваўчыцы пугай, а пасьля схапіўшы даволі тоўсты кол, спрытна ўпёр ёй у горла. А Азарка ўсё яшчэ сударажна трымаўся за ваўчыцу, ня гледзячы на тое, што твар і рукі былі страшэнна пагрызены. Уканцы ён страціў апошнія сілы: выпусьціў яе з рук, а сам упаў бяз прытомнасьці. У хуткім часе прыбылі на мейсца выпадку дворскія жыхары і забілі зьвязаную ваўчыцу.

Гэткім чынам адратаваў малалетні Янка свайго бацьку, які ляжыць цяпер цяжка хворы. Цікаўна, ці абшарнік Сандзілоўскі будзе дбаць аб сваім хворым пастуху? Ці і як заплаціць яму за тое, што, баронячы панскае дабро, ён амаль — ня страціў свайго жыцьця? **Ярашэвіч.**

## Нам пішуць з вёскі што:

✕ У м. Малеч, Пружанскага пав., ёсьць паровы млын А. Памеранца і С. Жука, дык дочка Памеранца, Лея, проста абкрадае сялян, што прывозяць малоць: з кожнага пуда скруціць 5 фунт. Жаліліся сяляне камэнданту, але—дзе там! Ён толькі пратаколы на вёсцы майстар пісаць, а тут за яўны крадзеж і грабеж ён „ня можа“.

✕ „Пад‘афіцэр“ Антон Полейко ў в. Хвойнікі, Малецкай гм., Пружанскага пав., запужвае турмою сялян, што запісваюцца ў Грамаду; але сяляне ня слухаюцца гэтага балбеса і дружна арганізуюцца ў Гурткі Грамады.

✕ Сяляне Гарадышчанскай гм., Наваградзкага пав., хацелі зрабіць сход сяброў Грамады ў памяшчэньні пажарнай каманды ў Гарадышчы, а гэтае памяшчэньне залежала ад ксяндза;—дык ксёндз, парадзіўшыся з рознымі „панкамі“ — спэкулянтамі ды аптэкарамі, якія рашылі, што „беларусы—гэта бандыты“, — памяшчэньня пад сход ня даў.

✕ Падлізьнікі п. Чайкіна—Ляхновічы, з в. Вялікае Сяло, Гарадзецкай гм., Маладэчанскага пав., сачаць, каб заняць чые коні, а там да пана або да паліцыі, і робяць, што хочуць! У Уладз. Сарахваша і Уладз. Дараховіча занялі коні на начлезе навет з сялянскай сенажаці і за гэта ў аднаго забралі шапку з галавы, а ў другога лапці з ног, бо ня мелі грошай бедныя сяляне.

✕ Сэкрэтарыят Вызваленьня ў Ваўкавыску ашуканствам, абяцуючы розную помач сялянам, упісвае іх у сваю партыю, вымагаючы па 1 зл., уступных. А пасьля, як прыдзе да тае „помачы“, то йзноў плаці злотыя за розныя „поданя“, а карысьці ніякай! Пераканаліся сяляне ў брахні вызваленцаў, якія перадусім у Сойме здрадзілі інтарэсам сялянства,—і ўцякаюць з „вызваленьня“, упісваючыся ў Бел. Сял.-Раб. Грамаду.

✕ Гурток Грамады ў в. Пяшчанка, Скідэльскай гм., Горадзенскага пав., з пагардай аднёсься да дэфэнзыўнай адозвы Павлюкевіча, зазначыўшы, што гэты панскі парабак страшыць сялян вастрогам, а каб вызваліць тых нашых братоў ды сыноў, што ўжо сядзяць у вастрозе, дык пальцам аб палец не зачэпіць. Наадварот, — называючы іх камуністамі, падбрэхвае, што яны павінны сядзець.

✕ Як пайшлі сяляне Малецкай гм., Пружанскага пав., прасіць у абшарніка Сьвіды сена на часьці, дык адказаў ён: „Хай у мяне гніе, а вам ня дам“. І фактычна і цяпер трава ня кошана стаіць — гніе. Праўду кажа народная прыказка — „Ліхі Ліханча, сам не ясі і другому не дасі“.

# Юрыдычныя парады.

**А. Глобаксу.** Можа, але з сваей маемасьці. — **Падпішчыку № 2560**. Такога закону няма, хіба якія сэкрэтныя распараджэньні.—**Язэпу Косьцевічу.** Некаторыя пляны ёсьць у Архіве Зямельнага Ураду ў Вільні. Ці ёсьць той, што Вам патрэбны, ня ведаем, трэба даведацца самому. — **А. Рыжаму.** Пакуль-што—не!—**Тамашу Чычкану.** Адабраць зямлі прадавец ня можа.—**Падпішчыку № 2865**. Адказу даць ня можам, бо надта-ж незразумела напісана.—**Падпішчыку № 2291.** Пакуль бацька жыве, ён — гаспадар; трэбаваць у яго зямлі ня маеце права, плату за сваю працу можаце трэбаваць. — **Васілю Валанцэвічу.** Братавая мае права на $1/7$ часьць зямлі і будоўлі, каторыя меў памершы брат.—**П. Кажуху.** Сёстры маюць роўныя правы.— **Пятру Раковічу.** Маеце права на часьць зямлі, што належала да сярэдняга брата, і на $1/7$ тэй часьці, што належыла да старшага брата, на зямлю малодшага брата права ня маеце.—**А. Камару.** Перш напішыце, калі памёр бацака. — **Багану.** Маці з прымаком і іх дзяцьмі маюць права на $1/3$ часьць, а Вы з братам—на $2/3$. — **Сычаву.** Можна падаць скаргу пракурору акружнога суда.—**Нікіфароўскаму.** Трэба прасіць міравога судзьдзю назначыць апеку, а потым падаваць у суд; трэба мець мэтрыку сьмерці мужа і хрэстныя дзяцей. **Кандрату Пратасу.** Дочкі маюць права кожная на $1/7$ часьць зямлі і будоўлі, а рэшта сын, што сядзіць на зямлі.— **Дабравольскай.** Могуць адабраць. Зьвярніцеся да адваката. **Мікалаю Багушу.** Гаспадаром лічыцца бацька, і трэбаваць у яго дарослыя дзеці нічога ня могуць.—**Падпішчыку № 100.** Калі пазычылі больш, як 30 руб., дык сьведкамі давадзіць ня можна.— **Ціхану Зыгмусю.** Вашае пісьмо вельмі няяснае, адказу даць ня можна.—**Сіўку Якубу.** Можна падаць у суд, але самі нічога ня зробіце. — **Падпішчыку № 2723.** Пакуль цесьць жыве, яго тэстамант ніякай сілы ня мае. Можна трэбаваць судом, каб ён выдзяліў $1/7$ часьць зямлі і будоўлі.

# Паштовая скрынка.

**Грам. Селяніну з в. Загора.** Вашай карэспандэнцыі не зьмяшчаем паміж іншым і затым, што не падалі Вы свайго адрасу.

**Грам. Г. Т. з Запольля.** Слушна Вы пішаце, што, як усе мы зарганізуемся ў Беларускай Сял.-Работ. Грамадзе, то даб‘емся сваіх правоў; дык і Вы самы старайцеся, каб у Вашай мясцовасьці больш і хутчэй закладаліся Гурткі Грамады.

**Парахвіянам Луконіцкай каталіцкай парахвіі.** Адлучыўшыся ад дзяржавы, царква толькі ўзмацуецца і ня будзе на ўслужэньні ў польскага ўраду, які праз ксяндзоў і сьвяшчэньнікаў толькі праводзіць сваю палітыку і хоча апалячыць нашае грамадзянства. Ваш ксёндз Ф. Пэрко або не разумее гэтага, або карыстаецца рэлігіяй дзеля таго, каб прадаваць Вашыя інтарэсы паном.

Зьбіраць подпісы пад паданьнем аб **неаддзяленьні** каталіцкага касьцёла ад дзяржавы ксёндз Пэрко мае права таксама, як і Вы маеце права падпісвацца на заявах аб **аддзяленьні**; але, калі ў Вас ёсьць факты, што ксёндз Пэрко бярэ подпісы ад дзяцей, то аб гэтым можаце напісаць пракурору.

# КАТАЛЁГ

**Беларускае Кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні, Вострабрамская вул. № 1.**

## II.—Б. Поэзія (вершы, апавяданьні).

(Працяг).

1. **А. Александровіч.** Па беларускім бруку. Збор вершаў. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 25 к.
2. **А. Александровіч.** Паўстанцы.
3. **А. Александровіч, Вольны А. і Дудар А.** Ваўчаняты. Роман беларускіх лясоў. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
4. **Бядуля Зьмітрок.** На зачараваных гонях. Апавяданьні. Менск, 1923 г. Ц. 40 к.
5. **Бядуля-Ясакар.** Буралом. Выбраныя вершы. Выд. „Белтрэстдрук“. Менск, 1924 г. Ц. 60 к.
6. **Багушэвіч Ф.** Дудка Беларуская. Смык Беларускі. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Ц. 30 к.
7. **Вольны.** Два. Повесьць. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 40 к.
8. **М. Гарэцкі.** Досьвіткі. Д. В. Б. Менск, 1926 г.
9. **Ц. Гартны.** Сокі Цаліны. Раман у трох часьцях, I ч. Бацькавая воля. Выд. Нав. Літ. Кам. Асьв. Б. С. С. Р. Бэрлін. 1922 г. Ц. 1 р.
10. **Цішка Гартны.** Песьні працы і змаганьня. Збор вершаў. Нав. Літ. Аддз. Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін, 1922 г. Ц. 80 к.
11. **Цішка Гартны.** Трэскі на хвалях. Выд. „Сав. Бел.“ Менск, 1924 г. Ц. 1 р. 50 к.
12. **Цішка Гартны.** На дзень пятнаццацігадовага юбілею яго літэратурнай працы (1908—1923). Менск, 1923 г. Ц. 60 к.
13. **Цішка Гартны.** Урачыстасьць: 1. Рэвалюцыі. 2. Жыцьця. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
14. **А. Гурло.** Барвенак. Б. К. В. Т-ва. „Сав. Бел.“. Менск, 1924 г. Ц. 1 р.
15. **Тарас Гушча.** Крок за крокам. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 30 к.
16. **Тарас Гушча.** На рубяжы. Апавяданьні. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 45 к.
17. **Тарас Гушча.** Беларускія народныя казкі. з малюнкамі.
18. **Тарас Гушча.** Першыя крокі. Апавяданьні. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 40 к.
19. **Тарас Гушча.** У ціхай вадзе. Апавяданьні. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 80 к.
20. **Ан. Дудар.** Беларусь бунтарская. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 20 к.
21. **Уладзімір Дубоўка.** Трысьцё. Вершы. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
22. **Я. Журба.** Заранкі. Вершы. Б. К. В. Т-ва, Менск, 1924 г. Ц. 50 к.
23. **М. Зарэцкі.** У віры жыцьця. Апавяданьні. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 1 р. 50 к.
24. **Караленка.** Лес шуміць. (Пераклад з расейскае мовы).
25. **Янка Купала.** Поўны збор твораў. Т. I. Жалейка, Гусьляр — з партрэтам, жыцьцёапісам і крытычным нарысам.
26. **Янка Купала.** Зборнік вершаў у перакладзе расейскіх паэтаў 1919 г. 120 стр.
27. **Я. Колас.** „Казкі жыцьця“. Зборнік апавяданьняў.
28. **Янка Купала.** Безназоўнае. Д. В. Б. Менск, 1925 г. Ц. 1 р.
29. **Янка Купала.** Збор Твораў. Т. I. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
30. **Янка Купала.** Збор Твораў. Т. II. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
31. **Янка Купала.** Спадчына. Вершы. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Ц. 1 р.
32. **Якуб Колас.** Сымон Музыка. Паэма. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
33. **Якуб Колас.** Новая Зямля. Паэма. Выд. „Сав. Бел.“ Менск, 1923 г. Ц. 1 р. 50 к.
34. **Якуб Колас.** Водгульле. Збор вершаў. Б. К. В. Т-ва „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Ц. 35 к.
35. **Я. Неманскі.** На зломе. Апавяданьні. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
36. **М. Чарот.** Завіруха. Збор вершаў. Выд. „Белтрэстдрук“. Менск, 1922 г. Ц. 40 к.
37. **Я. Неманскі.** Апавяданьні.
38. **Розных аўтараў.** Маладнякі. Беларускі дэкляматар з партрэтамі маладнякоўцаў.
39. **Крапіва.** „Крапіва“. Вершы.
40. **М. Чарот.** Веснаход. Збор апавяданьняў. Выд. „Сав. Бел.“ Менск, 1924 г. Ц. 1 р. 10 к.
41. **М. Чарот.** Босыя на вогнішчы. Паэма. Д. В. Б. Менск, 1925 г.
42. **І. П. Фурман.** „Крашаніна“. Выд. Віцеб. Акругов. Т-ва Краязнаўства. Віцебск, 1925 г.
43. **Розных аўтараў.** „Чырвоны дудар“. Беларускі дэкляматар. Б. К. В. Т-ва „Сав. Бел.“ Менск, 1924 г. Ц. 2 р.
44. **Ясакар.** Пад родным небам. Збор. вершаў. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1923 г. Ц. 65 к.

(Далей будзе).

Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Я. Левіна,** Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**